**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№40(704) 3 кастрычніка 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Жураўлі і Журавіны Мёрскага краю.**
Працяг тэмы на стар.4
*Фота ул. Скрабатуна.*

## Базавая велічыня з 1 кастрычніка павышаецца да 130 тыс. рублёў

**У Беларусі базавая велічыня з 1 кастрычніка вырасце на Br30 тыс. і складзе 130 тыс. Гэта прадугледжана пастановай Савета Міністраў № 842 ад 26 верасня 2013 г.**

Мінулы раз базавая велічыня была павялічана 1 красавіка 2012 г.. Тады яна вырасла з Br35 тыс. да Br100 тыс.

Базавая велічыня — гэта эканамічны паказчык, які вызначае абстрактную каштоўнасць пакупніцкай здольнасці грошай, не звязаную з ацэнкай якіх-небудзь канкрэтных матэрыяльных або нематэрыяльных выгод.

Базавая велічыня была ўведзена ў Беларусі з 2002 г., прымяняецца для вылічэння многіх паказчыкаў і нарматываў у сферы працоўных зносін, вызначае памер штрафаў і пошлін.

*БелТА*



Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ №166

Віцебскі раён

## Даўгі быццам путы

■ Станіслаў Раманчук

**У гэтым годзе айчынную эканоміку напаткалі новыя цяжкасці і ніводзін рэгіён Беларусі не выконвае даведзеных планавых заданняў.** У выніку прыйшлося збалансаваць усе расходы абласнога бюджэту з улікам змяншэння даходаў і ўвесці паўсюдна рэжым эканоміі сродкаў. Аднак на месцах у канкрэтных вытворцаў толькі дабаўляецца праблем і ў сярэдзіне лета запазычанасць суб’ектаў гаспадарання Віцебшчыны па выплатах абавязковых узносаў у Фонд сацабароны перавысіла 137 млрд. рублёў. Прычым імклівы рост даўгоў стаў назіраецца менавіта сёлета. І калі раней гэтым “грашылі” ў асноўным калгасы і льнозаводы вобласці, дык зараз гэта бяда закранула і гарады. Нават у абласным цэнтры складаная сітуацыя і ў адным Кастрычніцкім раёне Віцебска ў пенсійны фонд не заплацілі страхавыя ўзносы 85 суб’ектаў гаспадарання і падвялі тут больш паўтары тысячы працаўнікоў. Калі не будзе плацяжоў у ФСАН, то ў канкрэтнага работніка проста “знікне” працоўны стаж. Па новых законах для атрымання пенсіі неабходна мінімум 10 гадоў выплочваць узносы. У выніку гэты год могуць выкрасліць з жыццёвай біяграфіі больш тысячы супрацоўнікаў панчошна-трыкатажнай фабрыкі “КІМ”, якая перастала ўносіць плацяжы ў фонд з-за складанага матэрыяльнага становішча. Зараз людзям трэба задумацца, дзе яны працуюць, асабліва калі нейкага вытворцу чакае банкруцтва альбо ліквідацыя. Такім чынам у звыш 800 працаўнікоў ліквідуемага Віцебскага гарадскога будтрэста могуць увогуле прапасці 3 гады працоўнага стажу з-за вялізных непагашаных даўгоў банкрута. На практыцы ўжо нямала выпадкаў сярод вяскоўцаў, калі ім немагчыма аднавіць працоўны стаж, і людзі атрымоўваюць зусім мізерныя пенсіі, хоць і цяжка працавалі ўсё жыццё.

Пастаўскі раён

## Цягнуцца да сонца дрэўцы

■ Кастусь Александровіч

**Толькі работнікі лясной гаспадаркі ведаюць, якая гэта складаная задача вырасціць, захаваць і перадаць будучым пакаленням лясныя масівы, своеасаблівыя лёгкія планеты.**

Апошнім часам па краіне растуць і планы высечак, нарыхтовак драўніны. Вось і ў Пастаўскім раёне толькі ў мясцовым лягсасе з пачатку года за 8 месяцаў працы нарыхтавалі 91 тысячу кубаметраў драўніны, адгрузілі яе на экспарт больш чым на 1 млн. долараў. Аднак тут клапоцяцца і аб сваім будучым, толькі вясной сёлета пасадзілі малады лес яшчэ на плошчы 156 гектараў. Працаўнікі лягсаса таксама завяршылі рэканструкцыю свайго лесагадавальніку ў маляўнічай мясцовасці Азёрак паблізу райцэнтра. Неабходны для гаспадаркі аб’ект займае тэрыторыю 9,5 гектараў, тут з’явіліся матачныя пасадкі не толькі звыклых бяроз і сосен, ёлак, але і туі. Паклапаціліся і аб працаўніках лесагадавальніка, для якіх узвялі падсобнае бытавое памяшканне з кухняй, дзе можна схавацца падчас дрэннага надвор’я, перачакаць лівень. Цяпер лягсас уласным пасадачным матэрыялам для будучых маладых лясоў будзе поўнасцю забяспечаны. Адначасова рэзка палепшылася матэрыяльная база для лесарубаў, за апошніх паўтара года набылі 20 адзінак сучаснай лесанарыхтоўчай і іншай спецыялізаванай тэхнікі. Карэнным чынам змяніліся пасля рэканструкцыі будынкі Полаўскага і Лынтупскага лясніцтваў. Не пазнаць стала паляўнічы комплекс у Варапаеўскім лясніцтве, а ў самім лягсасе пачалася мадэрнізацыя сталярнага цэха.

Лепельскі раён

## І цуда-гарадок ля вады

■ Чэслаў Якубовіч

**Шмат дзе на кантыненце і ў самой Беларусі восенню адзначаюцца гарадскія святы.**

Прытрымліваюцца гэтай традыцыі і ў адным з самых прыгожых райцэнтраў Прыдзвіння – Лепелі, які днямі адзначыў сваё 574-годдзе. У горадзе абласнога падпарадкавання з насельніцтвам каля 19 тысяч чалавек сваё свята доўжылася з раніцы да позняга вечара, нягледзячы на надакучлівы асенні дождж. Нават сем’і з дзецьмі імкнуліся трапіць у гарпарк на беразе аднайменнага возера, бо там быў адкрыты нарэшце дзіцячы гарадок забаў еўрапейскага тыпу з палянай казак для самых маленькіх. Яго ўпрыгожылі розныя арэлі і каруселі, прыгожыя збудаванні для гульняў дзяцей і спартыўны цэнтр ля набярэжнай для самых спрытных. На Дзень горада былі ўшанаваны пераможцы конкурсу па добраўпарадкаванні, які выйграў райгаз. У музеі адкрыліся дзве мастацкія выставы, уключаючы персанальную ганаровага грамадзяніна Лепеля, вядомага творцы Уладзіміра Пракапцова, які стаў ганаровым госцем урачыстасцей. У цэнтры горада правялі парад-выставу прамысловай, сельскагаспадарчай і ваеннай тэхнікі, гучала музыка ваеннага аркестра. Лепельчанам прыгатавалі тысячу порцый кашы з чаем на паходнай кухні. З-за дажджу афіцыйную частку свята і канцэрт з амфітэатра перанеслі ў Дом культуры, а вечарам неба над горадам расквеціў святочны феерверк.

# Аб самым надзённым

## АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ ЦІСК, НІ ПАГРОЗЫ АДСТАВАК НЕ ЗМЯНІЛІ СІТУАЦЫЮ З ЗАЛЯЖАЛЫМІ БЕЛАРУСКІМІ ТАВАРАМІ НА СКЛАДАХ



■ Аляксандр Цішкевіч

**Бліжэйшыя месяцы пакажуць, ці ўдасца ў Беларусі пазбавіцца ад складскіх неліквідаў і адначасова справіцца з аб’яўленай маштабнай мадэрнізацыяй. Але, калі мы не будзем вырабляць новую, інавацыйную прадукцыю, то ў будучым зноў можам сутыкнуцца з падобнымі праблемамі.**

Ужо колькі гадоў наша краіна жыве ў рэжыме жорсткага каманднага кіравання і ўсеабдымнага кантролю ўсіх і ўсяго. Даводзяцца штогод напружаныя заданні і прагнозныя праметры, агучваюцца смелыя планы, але вось з іх рэалізацыяй сёлета паўсталі нябачаныя раней цяжкасці. Гэта ж вам не жартачкі, калі па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, у першым паўгоддзі экспарт беларускіх тавараў скараціўся на 24 % у параўнанні з адпаведным перыядам 2012 года.

Што сітуацыя ў эканоміцы даволі сур’ёзная, засведчыла і праведзеная ў пачатку лета чарговая нарада на вышэйшым узроўні па пытаннях, як паведамлялі ў чэрвені СМІ, развіцця прамысловага комплексу і рэалізацыі айчыннай прадукцыі. Кіраўнік дзяржавы ў сваёй звыклай манеры зноў запатрабаваў ад падначаленых ад урада да сваёй вертыкалі і дырэктарскага корпуса на месцах на працягу 3-га квартала ажыццявіць рашучыя крокі на разгрузцы складоў прадпрыемстваў Беларусі. Дарэчы, апошнім часам такія нарады ўжо праводзіліся, пэўную колькасць нашых заляжалых тавараў тады ўдавалася прадаць розным спажыўцам, альбо адгрузіць без папярэдняй аплаты, абы толькі ўкласціся ў графікі.

Меркавалася і ў гэтым годзе зрабіць такое з разлікам, каб да канца снежня выйсці на прымальныя нарматывы астаткаў гатовай прадукцыі. Ды толькі зараз паўтарыць звыклыя манеўры нешта не атрымоўваецца, бо мала хто хоча купляць беларускую прадукцыю, яна губляе сваю канкурэнтназдольнасць на знешніх рынках. І вось, як гэта ў нас бывае, галоўны чыноўнік называе вінаватых публічна пры наведванні ў верасні сталічнага ААТ “Мотавела”. Кіраўнік дзяржавы паабяцаў маштабную кадравую чыстку і сказаў: “если 1 января вы не выйдете на то, что обещали, ни Семашко, ни директоров в этих должностях не будет. И ещё оценку дадим премьер-министру, может быть, он вместе с вами в обнимку уйдёт. У меня выхода другого нет».

Праўда, цяпер упраўленцы высокага рангу апраўдваюцца, што цяжкасці абумоўлены скарачэннем пакупніцкага попыту на нашы тавары найперш у Расіі і на іншых традыцыйных для Беларусі рынках. Але ж хто загадваў прамыслоўцам яшчэ летась нарошчваць у 2013 годзе выпуск прамысловай прадукцыі, хто давёў да вытворцаў вялізныя тэмпы росту? У нас прынята загады зверху не абмяркоўваць, а толькі браць пад казырок па прынцыпе выканаем “кроў з носу”.

Але ж на двары XXI стагоддзе, свет жыве на іншых правілах і яўна лепей за нас. У выніку, як у той пушкінскай казцы, апынуліся мы ля разбітага карыта. У пачатку жніўня, напрыклад, у Беларусі запасы гатовай непрадзенай прадукцыі дасягнулі ўжо болей 3,3 млрд. долараў, альбо 74,4 % да сярэднямесячнага аб’ёму вытворчасці (летась такі паказчык складаў 51,3 %). Скажам шчыра, такія тэндэнцыі ўжо непасрэдна пагражаюць нармальнаму існаванню фінансавай сістэмы дзяржавы і з’яўляюцца падставай для чарговай, можа і плаўнай дэвальвацыі нацвалюты, што фактычна ўжо мы і назіраем.

У верасні беларускі рубель працягваў таннець і пераадолеў псіхалагічны бар’ер больш 9 тысяч за долараў і адзнаку 12000 за еўра. Да таго ж напрыканцы лета і дэфіцыт рублёў у банкаўскай сістэме Беларусі перавысіў 10 трыльёнаў, стаўкі на міжбанкаўскім рынку аднойчы дасягнулі 80 % гадавых, нават болей чым было падчас вострага крызісу ў 2011 годзе. А ў астатнім у нас усё па-ранейшаму, яшчэ ў жніўні рост цэн складаў з пачатку года 8,2 %. Добра, што хоць бульба і гароднiна рэзка патаннелі і ёсць падставы, што эканоміцы ўдасца ўкласціся па выніках 2013 года ў зацверджаныя 12 % інфляцыі ( у суседзяў такога няма).

І ў наступным годзе беларусаў вуснамі віцэ-прэм’ера Пятра Пракаповіча нацэлілі на рэгулюемы рост цэн і тарыфаў і заклікалі не баяцца дэвальвацыі, бо сярэдні курс долара паабяцалі 9500. Зараз падзенне айчыннай валюты Нацбанку ўдалося прыпыніць, а візіты адразу трох уплывовых расійскіх дзеячаў ад бізнесу ў Мінск засведчылі, што канфлікт вакол “Уралкалія” пайшоў на спад. Бліжэйшыя месяцы пакажуць, ці ўдасца ў Беларусі пазбавіцца ад складскіх неліквідаў і адначасова справіцца з аб’яўленай маштабнай мадэрнізацыяй. Але, калі мы не будзем вырабляць новую, інавацыйную прадукцыю, то ў будучым зноў можам сутыкнуцца з падобнымі праблемамі.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| Мясцовы час | Чацвер 03.10.13 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Пятніца 04.10.13 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Субота 05.10.13 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Нядзеля 06.10.13 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | Пнд.07.10.13 03:00 | 09:00 | 15:00 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +2 | +6 | +2 | +3 | +5 | +9 | +6 | +5 | +5 | +9 | +4 | +4 | +6 | +10 | +6 | +4 | +5 | +11 |
| Ціск | 758 | 759 | 759 | 759 | 760 | 760 | 759 | 759 | 758 | 757 | 757 | 755 | 755 | 754 | 754 | 753 | 753 | 753 | 753 |
| Вільготнасць | 92 | 92 | 57 | 87 | 92 | 93 | 74 | 86 | 88 | 87 | 62 | 86 | 91 | 91 | 68 | 88 | 96 | 92 | 77 |
| Вецер м/сек | 1 Пн-У | 1 Пн-З | 2 Пн-У | 1 Пд-З | 1 Пн-З | 3 З | 4 Пн | 2 З | 2 Пн-З | 2 З | 3 З | 4 Пд | 3 Пд | 5 З | 5 З | 4 Пд-З | 3 З | 5 З | 4 З |

## Дзень за днём

**З-за бюджэтных цяжкасцей Мінфін Расіі прапанаваў з 2014 года адмяніць нафтавыя льготы для Беларусі. Грашовы рынак краіны ахапіла новая хваля крызісу, бо банкаўскія стаўкі выраслі да 60 %, ніводзін рэгіён не дасягнуў планавага эканамічнага росту. Беларусам заканадаўча дазволілі здаваць жыллё і юрыдычным асобам.**

**Для барацьбы з махлярствам у краіне плануюць стварыць Бюро страхавых гісторый. У трэці раз сёлета "Белнафтахім" павысіў цэны на паліва, летась яны павышаліся 4 разы, а ў 2011 годзе - нават 11 разоў, рэзка падаражэлі паштовыя паслугі. Толькі ў беларускай сталіцы ў аварыйным стане знаходзяцца 400 балконаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя.** Услед за забаронай выкарыстання хімічнай зброі пасля дамоўленасці ЗША і РФ апазіцыя прапанавала свету дабіцца ад арміі Б. Асада адмены паветраных бамбардзіровак.

**Японія.** У краіне спынілі для тэхабслугоўвання апошні ядзерны рэактар на АЭС, яго не плануецца перазапускаць, японцы пасля цунамі спынілі працу ўсіх сваіх 50 АЭС.

**Індыя.** Краіна правяла паспяхова зноў выпрабаванні балістычных ракет "Агні-5", здольных даставіць ядзерную зброю на 5 тысяч км, іх распрацоўка вялася з 1983 года.

**Расія.** Запланаванае на верасень пасяджэнне Саюзнага ўрада РФ і Беларусі па нафтаваму балансу на 2014 год і іншых важных пытаннях перанеслі на больш позні тэрмін.

**Бельгія.** Еўракамісар Штэфан Фюле заявіў, што калі ў РБ будзе праграэс у справе палітвязняў, то Еўрасаюз неадкладна запусціць з Беларуссю праграму яе мадэрнізацыі.

**Францыя.** Дэпутаты Еўрапарламента зацвердзілі даклад аб сітуацыі ў Беларусі і заклікалі афіцыйны Мінск спыніць самаізаляцыю краіны ад Еўропы, паважаць правы чалавека.

**Кыргыстан.** Суседні Кітай укладзе 3 млрд. USD інвестыцый у пабудову газаправода, на рэканструкцыю Бішкекскай ЦЭЦ, аэрапорта Манас, на іншыя эканамічныя праекты.

**Бразілія.** У Рыа-дэ-Жанейра Беларусь закрыла сваё генеральнае консульства, у пачатку года там загінуў у акіяне консул, у краіне засталося працаваць беларускае пасольства.

**Іспанія.** Падчас акцыі "Каталонія – не Іспанія" 1,6 млн. чалавек у нацыянальным адзенні стварылі жывы ланцуг даўжынёй 400 км за незалежнасць свайго краю аўтаноміі.

**ЗША.** У Гарвардскім універсітэце лаўрэатам Шнобелеўскай (Антынобелеўскай) прэміі міру 2013 года стаў кіраўнік Беларусі за забарону публічных апладысментаў.

**Таджыкістан.** Каб зноў застацца пры ўладзе, нязменны з 1994 года прэзідэнт 62-гадовы Э. Рахмон перад чарговымі выбарамі 6 лістапада павысіў пенсіі і заробкі бюджэтнікам.

**Расія.** Намеснік генпракурора РФ А. Звягінцаў пацвердзіў, што ні пры якіх умовах краіна ніколі не выдасць Беларусі сенатара С. Керымава, экс-буйнейшага акцыянера "Уралкалія".

**Італія.** Італьянскія і амерыканскія інжынеры паспяхова правялі аперацыю па пад'ёме ля вострава Джылья патанулага гіганцкага лайнера "Коста Канкордыя" вагой 114 тысяч тон.

**Карэя.** З"камуністычнага раю" збегла сюды ў Сеул 19-гадовая дачка міністра нацыянальнай бяспекі КНДР, яна вучылася ў Пекіне і ўцякла сюды праз трэцюю краіну.

**КНДР.** Лідар паўгалоднай краіны Кім Чэн Ын на тэрыторыі народнага парка забаў у сталіцы Пхеньяне адкрыў першы 3D-кінатэатр і загадаў будаваць іх паўсюдна.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Палітолаг А. Ягораў заявіў, што ўвядзенне пошлін на выезд за граніцу выклікаў у краіне буйны "кацёл незадавальнення", бо за паўгода мяжу перасяклі 3,8 млн. беларусаў.

**Салігорск.** На базе ЗАТ "Беларуская калійная кампанія" вымушана стварыла з-за вострага канфлікту з "Уралкаліем" яшчэ адзін свой трэйдэр для каардынацыі экспартных паставак.

**Мінск.** Экс-прарэктар БДУ А. Паўлаў заявіў, што сітуацыя ў сферы адукацыі Беларусі катастрафічная, 36 % абітурыентаў невыпадкова правалілі цэнтралізаванае тэсціраванне.

**Рэчыца.** Калектыў мясцовага піўзавода засмуціла рашэнне фірмы "Хайнекен" прыпыніць тут выпуск піва і нарасціць вытворчыя магутнасці на другім сваім заводзе ў Бабруйску.

**Барысаў.** Ад 7 да 15 гадоў турмы пагражае мясцоваму ксяндзу У. Лазару за перадачу толькі грошай і каштоўнасцей чалавеку, які быццам шпіёніў на карысць іншай дзяржавы.

**Уручча.** Падчас заняткаў па ваенна-інжынернай падрыхтоўцы на стрэльбішчы загінуў ад падрыву трапілавай шашкі падпалкоўнік Ваеннай акадэміі РБ, былі паранены 5 курсантаў.

**Мінск.** Былыя кіраўнікі Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч, М. Грыб і лідар АГП А. Лябедзька звярнуліся ў Канстытуцыйны суд супраць размяшчэння ў нас ваенных баз Расіі.

**Брэст.** На лекцыі ў тэхнічным універсітэце яго былы выпускнік, прэм'ер М. Мясніковіч папракнуў беларусаў, што хочуць мець амерыканскія заробкі і жыць па беларускіх цэнах.

**Вілейка.** На сметніку ля раённага цэнтра знайшла сваю пагібель 43-гадовая беспрацоўная, жанчыну не заўважыў на палігоне адыходаў і зажыва пахаваў бульдазерыст жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

**Мінск.** Вучоныя БДУ растлумачылі, што сёлета вясна прыйшла са значным спазненнем з-за павелічэння зімой азонавага слою ў паўночным паўшар'і, які ахаладзіў Гальфстрым.

**Гомель.** З моста над Сожам зноў скокнула і ўтапілася жанчына, раней тут удалося выратаваць расіянку з дзіцём, якая скінула ў ваду 5-гадовую дачку і сама рынулася ў ваду.

**Глуск.** Міліцыя аператы ўна раскрыла двайное забойства ў райцэнтры 31-гадовай жанчыны і малой дачкі, якіх у сварцы забіў сужыцель, супарцоўнік банка, іх трупы вывез на аўто і закапаў.

**Чавусы.** Пасля банкруцтва на мясцовым ільнозаводзе адключылі свет і сувязь, ён спыніў працу пасля 80 гадоў дзейнасці, людзям прапанавалі шукаць сабе новую работу.

**Ліда.** На другі дзень горада вечарам ля прадмага злачынцы жорстка забілі дзвюх жанчын-прадаўцоў ва ўзросце 45 і 56 гадоў, скралі з крамы 35 мільёнаў рублёў і спіртныя напоі.

**Мінск.** Як і чакалася, старт хакейнага "Дынама" аказаўся самым няўдалым за ўсе гады выступленняў у КХЛ, на матчы на "Мінск-арэне" стала прыходзіць менш гледачоў.

## У Беларусі ўстанаўліваюцца дадатковыя пенсійныя гарантыі работнікам, занятым на работах са шкоднымі ўмовамі працы



■ БЕЛТА

**У Беларусі ўстанаўліваюцца дадатковыя пенсійныя гарантыі работнікам, занятым на работах са шкоднымі ўмовамі працы. Гэта прадугледжана ўказам № 441 «Аб некаторых пытаннях прафесійнага пенсіённага страхавання і пенсійнага забеспячэння», які Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў 25 верасня, паведамілі БЕЛТА ў прэс -службе беларускага лідара.**

У адпаведнасці з дакументам прадастаўлена права на датэрміновую (ільготную)пенсію са сродкаўагульнай пенсійнай сістэмы асобам, занятым на шкодных і цяжкіх працах, якія да 1 студзеня 2009 года (гэта значыць да ўвядзення прафесійнага пенсійнага страхавання) адпрацавалі ў шкодных умовах працы не менш за палову стажу, патрэбнага для назначэння гэтай пенсіі.

Работнікам са шкоднымі ўмовамі працы, якія да 1 студзеня 2009 года выпрацавалі менш за палову неабходнага стажу або зусім не маюць такога стажу да названай даты ( адпаведна, не набудуць права на датэрміновую ( ільготную) пенсію са сродкаў агульнай пенсійнай сістэмы), прадастаўлена права выбару спосабу кампенсацыі іх занятасці на шкоднай працы.

У прыватнасці, у першы шкоднай працы можна адразу атрымліваць штомесячную даплату да заработнай платы (у памеры, які вызначаецца працадаўцам, але не менш за суму ўзносаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне). У гэтым выпадку работнік атрымае дадатковы бягучы даход замест права на прафесійную пенсію ў будучыні.

Альбо можна выбраць прафесійнае пенсійнае страхаванне і ў будучыні атрымліваць датэрміновую або дадатковую прафесійную пенсію, сфармаваную за кошт узносаў працадаўцаў на дадзенае страхаванне. Пры гэтым для фарміравання больш важкіх прафесійных пенсійных зберажэнняў работніка ўказам прадугледжана з 1 студзеня 2014 г. павялічыць тарыфы ўзносаў, што выплачваюцца работадаўцамі на прафесійнае пенсійнае страхаванне.

Указ уступае ў сілу з першага чысла месяца, наступнага за месяцам яго афіцыйнага апублікавання, а пункт 2 гэтага ўказу, які прадугледжвае павелічэнне тарыфаў узносаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне, - з 1 студзеня 2014 года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Чашнікі.** Першы віцэ-прэм'ер урада РБ У. Сямашка ўстроіў разнос за нізкія тэмпы мадэрнізацыі (усяго 38 % ад графіку) зношаннай папяровай фабрыкі "Чырвоная зорка".

**Гарадок.** Аргкамітэт для падрыхтоўкі і правядзення рэспубліканскага фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2014" узначаліў віцэ-прэм'ер урада Беларусі Міхаіл Русы.

**Віцебск.** У сувязі з АЧС і знішчэннем свіней бройлерная фабрыка аднавіла продаж падросшых бройлераў для насельніцтва, а птушкафабрыка "Гарадок" – куранят і нясушак.

**Полацк.** У новым цэху філіяла "Магатэкс" швейнай фабрыкі "Мона" замест жаночага адзення пачалі шыць форму для ваенных і выратавальнікаў МНС часцей Расіі і Беларусі.

**Сянно.** На выязным прыёме грамадзян Міністр працы і сацабароны РБ М. Шчоткіна пацвердзіла, што законам будуць зняты абмежаванні пры прыёме на працу пенсіянераў.

**Орша.** У мясцовым каледжы чыгуначнага транспарту назіраўся найбольшы конкурс (2,82 чалавека на месца) па паступленні сярод 24 тэхнікумаў вобласці, недабор у аграрных.

**Наваполацк.** Упершыню праз тры гады аўтапарк № 6 папоўніўся 3 аўтобусамі вялікай умяшчальнасці, яшчэ 2 на чарзе, набылі і 3 грузавікі для міжнародных перавозак.

**Шуміліна.** Падчас ворыва глебы ля вёскі Башні ў полі загарэўся новы беларускі трактар МТЗ 3022 сельгаспрадпрыемства "АграБаравінка", трактарыст не пацярпеў.

**Браслаў.** На пункце пропуску "Урбаны" ў вадзіцеля з Польшчы канфіскавалі прычэп-рэфрыжэратара за перавозку ў абсталяваным тайніку 2638 кантрабандных пачак цыгарэт.

**Верхнядзвінск.** З-за неасцярожнасці пры курэнні на ферме ў вёсцы Клімаўшчына згарэў пад раніцу разам з матрацам у падсобным памяшканні 50-гадовы вартаўнік.

**Гарадок.** Фірма "Белвест" заключыла дагавор з РКБА і адкрые ў студзені будучага года ў яго будынку пасля рамонту свой цэх па пашыве нарыхтовак верху абутку для 80 рабочых.

**Талачын.** Вучань 9-га класа ранiцай ля вёскі Межава з'ехаў на трактары бацькі Т-25 у кювет, перакуліўся, у выніку ДТЗ загінула 37-гадовая жанчына, ехаўшая ў прычэпе.

**Віцебск.** Да новага сезона тэатр "Лялька" падрыхтаваў прэм'ерны спектакль для дарослых "Скрыпка дрыгвы й верасовых пустэчаў" па творах Уладзіміра Караткевіча.

**Орша.** Днём у цэнтры горада ля будынка суда 29-гадовы мужчына забіў нажом сваю былую 20-гадовую жонку, потым паспрабаваў і сам скончыць жыццё самагубствам.

**Наваполацк.** Адразу 3 залатыя медалі ў фігурным катанні, на трампліне і ў шматбор'і завявала на чэмпіянаце Еўропы па вадналыжным спорце навапалачанка Н. Берднікава.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Жураўлі і Журавіны Мёрскага краю

**Мёры займелі сваё адметнае свята – "Жураўлі і Журавіны Мёрскага краю". Сёлета яно праводзілася другі раз запар, гэтым разам ў нядзелю 29 верасня.**

Арганізатарамі свята сталіся: 1) Мёрскі РВК; 2) Праект ЕС і Праграмы развіцця ААН "Садзейнічанне развіццю ўсёабдымнай структуры міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне аховы навакольнага асяроддзя у Рэспубліцы Беларусь"; 3) Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь; 4) Дзяржаўная прыродаахоўная ўстанова "Ельня"; пры падтрымцы 5) Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь; 6) Грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны"; 7) Замежнага прадпрыемства "Coca-Cola" Бэўрыджыз Беларусь". Апошняя – уражвае! Даў бы хто Глыбокаму грошай на рэстаўрацыю будынка кляштара кармелітаў, а мы ў знак удзячнасці – упіваліся б хоць і той "Кока-Колай"!

Аўтар гэтых радкоў у свой час наведваў розныя святы ў Паставах, Докшыцах, Навагрудку, зразумела, і ў самім Глыбокім. Цікавіць сама арганізацыя святаў і яго разынкі (изюминки). Менш цікавіць гандаль, бо зрэшты, ён арганізаваны паўсюль аднолькава – гандлёвыя палаткі, ды дым ад мангалаў з шашлыкамі… Колькасць жа гандлёвых палатак залежыць толькі ад маштабаў свята – "Дзень беларускага пісьменства і друку" ў Глыбокім ці "Звіняць цымбалы і гармонік" ў Паставах – калі для падмацавання з'язджаюцца ледзьве не ўсе РайСТы вобласці, бо святы маюць агульнацыянальнае ці міжнароднае значэнне. У Мёрах абышліся сваімі сіламі: РайСТ, хлебазавод, мясакамбінат.

Месца і час правядзення незвычайнага свята абраны не выпадкова. Менавіта ў верасні пачынаецца сезон збору журавінаў, адной з асноўных крыніцаў прыбытку мясцовага насельніцтва. Мясцовыя жыхары кожны год збіраюць і прадаюць сотні тон журавінаў! Акрамя гэтага, Мёрскі край штогод «прымае ў госці» больш за 5 000 жураўлёў і 10 000 гусей, якія спыняюцца на адпачынак на балоце Ельня падчас восеньскай міграцыі. Пра гэтыя дзве ўнікальныя асаблівасці сваей малой Радзімы захацелі распавесці мясцовыя жыхары.

Што добрага ёсць у Мёрах? Ну, зразумела, не наяўнаць выдатных помнікаў даўніны, бо акрамя касцёла іншых цікавостак там няма. Ёсць затое добры і разлеглы гарадскі парк! На зайздрасць Глыбокаму! Ён размешчаны на выспе, якая клінам уразаецца ў возера. Парк уразіў! Вялікія ліпы, клёны, бярозы! Увесь парк усцелены золатам восені. Прыгажосць неймаверная! Малайцы даўнія ўлады Мёраў, якія пасля вайны абачліва заклалі гэты цудоўны парк.



**Адкрывае свята ўзорны харэаграфічны ансамбль «Лялька» Верхнядзвінскага РДК.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

У парку, якраз, а не на цэнтральным пляцы горада, адбывалася свята. На свята з'ехаліся ўсе сельсаветы Мёршчыны – са сваімі панадворкамі: Перабродскім, Язненскім, Дзісенскім, Чэрасаўскім, Мікалаёўскім, Узменскім…

Досыць цікавым і арыгінальным быў панадворак з Перабродддзя. Ну, па-першае, Перабродддзе - адзіная вёска Беларусі, якая з даўніх часоў мае свой герб, гэты гонар яны і не ўтойвалі – прыехалі са сваім сцягам і гербам. Па-другое, панадворак быў аформлены ў паляўнічым стылі. Паўсюль віселі паляўнічыя трафеі, дзясяткі апрацаваных скураў дзікіх жывёлаў: ваўкоў, лісіц, дзікоў, а на ўваходзе ў панадворак – вялікая галава дзіка з ікламі.

Зрэшты, і без журавінаў тут не абышлося.

Валанцёры ад грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" раздавалі прысутным запрашэнні на бясплатныя аўтобусныя экскурсіі з райцэнтра на навакольныя палі, дзе днём харчуюцца жураўлі. Аўтобусы адпраўляліся штогадзіны – з 11-й да 16-й гадзіны. Экскурсіі праводзілі прафесійныя арнітолагі з ГА "Аховы птушак Бацькаўшчыны". У экскурсантаў быў шанец паназіраць за птушкамі і зрабіць унікальныя фотаздымкі.

Атрымаць яркія ўражанні ўдзельнікі і госці свята ў Мёрах маглі, беручы ўдзел у экалагічных гульнях. Кожны жадаючы змог паспрабаваць сапраўдны журавінавы морс, каўбасы з журавінамі, мясцовыя выпекі з журавінамі і набыць ягаду ды іншыя прысмакі.

У ходзе правядзення свята адбылася конкурсная праграма сярод школьніц «Мёрская Журавінка», конкурс панадворкаў – «Багацце Ельні на нашым панадворку», выстава-продаж вырабаў народных майстроў, правядзенне майстар-класа «Птушкі з воўны».

Думаю, што і нашым глыбоцкім арганізатарам Вішнёвага фэсту трэба наведваць святы ў розных гарадах, у тым ліку і ў Мёрах. Можна нешта падглездзіць, пераняць... Ну, напрыклад, можна ў нас рабіць вішнёвы мармелад (і ў шакаладзе), вішнёвае марозіва, вішнёвы лікёр, вішнёвыя сокі...

Калі ў Глыбокім абраны галоўным святам года – Вішнёвы фэст, які палягае на даўніх традыцыях закладкі вішнёвых садоў, то ў Мёрах гэта прывязана да журавінаў і жураўлёў. То, дзе тыя журавіны і жураўлі? На балоце Ельня, якое з'яўляецца адным з найбуйнейшых верхавых балотаў у Беларусі і ўсёй Еўропы. Толькі на тэрыторыі аднаго балота Ельня – больш за 100 азёраў! (Уявіце: ва ўсім Глыбоцкім раёне – 106 азёраў, а тут толькі ў адным балоце – больш за 100!). Заказнік "Ельня" знаходзіцца на тэрыторыі Мёрскага і Шаркоўшчынскага раёнаў, агульнай плошчай – 25 301 га. Заказнік "Ельня" з'яўляецца Рамсардскай тэрыторыяй і тэрыторыяй важнай для птушак міжнароднага значэння. Балоту Ельня – 9 000 гадоў.

Балота Ельня, дзякуючы сваім вялізным памерам, – бяспечнае месца для начлегу гусей і жураўлёў, якія мігруюць са Скандынавіі і Расіі. Толькі каля 20 пар жураўлёў гняздуецца на балоце, усе астатнія – мігруючыя птушкі. Дарэчы, шэры журавель - адна з найбуйнейшых птушак у Еўропе – вышынёй да 140 см.

Ёсць у Мёраў цікавая адметнасць, якую не магчыма не заўважыць! Столькі раварыстаў на вуліцах, як у Мёрах – нідзе, ні ў адным горадзе Беларусі, не бачыў! Не проста адзінкавыя, а цэлыя групы раварыстаў на вуліцах адначасова! Едуць у касцёл, едуць у краму, едуць і на свята ў парк… Паркоўкі для ровараў паўсюль – ля касцёла, ля крамаў… Нібы, як у В'етнаме! У Глыбокім такога не ўбачыш! Нават хоць аднаго раварыста, які б ехаў у касцёл ці царкву. У Глыбокім жа едуць у касцёл і крамы на аўта! Каб убачыць такое ў нас, трэба завітаць у Мосар ці Удзела. Вось там, калі ласка, убачыце падобнае відовішча: дзясяткі раварыстаў на вясковых вуліцах, як ручаіны, што плывуць да касцёла з розных кірункаў.

«Жураўлі і Журавіны Мёрскага краю» альбо «Вішнёвы фэст» у Глыбокім – добры спосаб для папулярызацыі прадукцыі мясцовых вытворцаў, нацыянальнай культуры, развіцця турызму ў нашым краі, а таксама для разумення неабходнасці аховы навакольнага асяроддзя.



**Жураўлі злучаюцца ў пару на ўсё жыццё і круглы год трымаюцца адзін аднога.**



**Вёска Перабродддзе мае свой герб з самых даўніх часоў. Паводле мясцовага падання, жыхары атрымалі гарадскія правы за тое, што паказалі шлях (броды) праз ваду каралю. Больш канкрэтны гістарычна пацвярджаемы дакумент - гэта ліст Жыгімонта Аўгуста, які датуецца 22 лютым 1571 годам, дзе Перабродддзе выразна называецца «местам» (г.зн. горадам). Перабродддзе – адзіная сёння вёска Беларусі, якая мае свой герб і сцяг, з ім і прыехалі на свята ў Мёры.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Заміж журавінаў завезлі на продаж «клюкву» па 20 000 за кілаграм.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Мёрскае РайСТ: салат «Журавінка», салат з капусты з журавінамі ды вінегрэт з журавінамі. Нават блінчыкі (злева) аздобілі журавінамі.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Кліменцій Кожан,** краязнаўца, выпускнік Глыбоцкай педвучэльні. *м. Германавічы.*

# Незабыўныя гады

## Успаміны Андрэя Майсяёнка

**Заканчэнне.** *Пачатак у №39 (703) за 26.09.2013 г.*

Можна толькі ўявіць, з якой стараннасцю пасля перажытага Георгій Нікіфаравіч узяўся за санэпідсправу ў Шаркоўшчынскім раёне, за навядзенне парадку санэпідрэжыму, дэзінфекцыю, ачыстку вады, прышчэпкі, дапамагаў у лячэбнай працы ў райбальніцы ў Базыльполлі (туды ўжо быў пераведзены з Германавіч вядомы доктар Герасімовіч М.І. і крыху пазней прыехаў урач-хірург Заброцкі В.У.). Працягвалася вайна, і ўсе дружна працавалі ў ваенна-медыцынскай камісіі Шаркоўшчынскага райваенкамата, за што Георгій Нікіфаравіч быў адзначаны ўзнагародай – медалём "За победу над Германией в Великой Отечественной войне", а пазней яшчэ трыма юбілейнымі медалямі.

Жылі мы ў Шаркоўшчыне да 1948 года, спачатку на кватэры ў Дубашынскіх (іх сын пазней стаў заслужаным артыстам рэспублікі), а потым пры будаўніцтве санэпідстанцыі (каля пераезду) нам была выдзелена ў гэтым жа будынку невялікая кватэра. Ад будаўнікоў мае і першыя словы: "абу" (малаток), "цёкі" (цвік). 15 снежня 1947 года бацьку перавялі на пасаду хірурга Дунілавіцкай райбальніцы (у Варапаеве), дзе ён арганізаваў хірургічнае аддзяленне і бязменна загадваў ім да 1971 года. У Варапаеве з 1949 па 1959 год я вучыўся ў сярэдняй школе, але кожны год абавязкова летнія канікулы праводзіў у Шаркоўшчынскім раёне, у любімых маляўнічых месцах у Астаноўцы (у дзядулі Фёдара і бабулі Вассы) ці ў Ракаўцах у цёці Маруты. Часцей ездзілі з мамай Антанінай Фёдараўнай і маёй сястрой Аленай. Тут знаходзіліся стрыечныя браты: Георгій (Гога) – дзіўны весялун і аптыміст і Пётр – вельмі працавіты, з якімі многае звязана на "шаркоўшчынскіх канікулах". Аўтарытэтным настаўнікам біялогіі стала ў Варапаеўскай школе Антаніна Фёдараўна. Яна неаднаразова выбіралася дэпутатам мясцовых Саветаў. Была ў вялікай дружбе з Лідзіяй Іванаўнай Сікорай – дачкой знакамітага беларускага садавода І.П.Сікоры. Прыходзілася сустракацца і з самім Іванам Паўлавічам, з саду якога атрымлівалі добрыя сарты яблынь і кустарнікаў. У Варапаеве я быў актыўным удзельнікам музычных і спартыўных калектываў, знакамітых на Маладзечаншчыне, пад кіраўніцтвам кампазітара і заслужанага дзеяча культуры І.Сушко. Не раз быў з канцэртамі і спаборніцтвамі ў Шаркоўшчыне. Любію спыняцца ў дзядзі Глінскага (на вуліцы Камсамольскай). Былы бухгалтар санэпідстанцыі быў жанаты на сястры маёй бабулі, і, будучы бяздзетным, лічыў нас стрыечных братоў за сваіх. Многія жыхары Шаркоўшчыны помняць яго раннія памідоры.

Тым часам, я закончыў Гродзенскі медінстытут, аспірантуру, стаў адным з кіраўнікоў Аддзела рэгуляцыі абмену рэчываў АН БССР (пазней і цяпер Інстытута біяхіміі НАН Беларусі). Атрымаў ступень кандыдата медыцынскіх навук і доктара біялагічных навук, а ў 2000 годзе быў выбраны членам-карэспандэнтам НАН Беларусі па спецыяльнасці "Біяхімія". Знаходжуся ў Аддзяленні медыцынскіх навук Нацыянальнай акадэміі навук.

Мая мама – адна з першых сельскіх настаўніц Шаркоўшчынскага раёна савецкага перыяду, ужо будучы пенсіянеркай, цяжка захварэла і памерла ў 1980 годзе. Згодна яе завяшчанню была пахавана на ракаўскім стараверскім могільніку (цяпер вуліца Зарэчная г.п. Шаркоўшчына). Даражыла гэтым месцам, звязаным з успамінамі маладосці, тут жылі дзве яе родныя старэйшыя сястры Ульянія і Марыя. Тут зноў і зноў прыходзілася бываць і мне, і ўсёй нашай сям'і.

Паступова расло новае




**Кніга «Витамины. Краткое руководство для врачей и студентов ВУЗов», напісаная доктарам біялагічных навук, прафесарам, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Т. С. Марозкінай і доктарам біялагічных навук, прафесарам, член-карэспандэнтам НАН Беларусі А. Г. Майсяёнкам.**

пакаленне шаркаўшчан, на змену сябрам дзяцінства – Зав'ялавым, Герасімовічам з'явіліся новыя сябры. Сярод іх – малады ўрач акушэр-гінеколаг Шаркоўшчынскай райбальніцы Карэева Галіна Іванаўна. Пасля двухгадовай дружбы ў лістападзе 1975 года пажаніліся. Вяселле было ў Шаркоўшчыне, што дало магчымасць прыняць удзел усёй шаркоўшчынскай радні: і Ротчанкавым, і Глінскім, і Фёдаравым, і Масляковым. Прыехалі два дзядзькі з Ковеля – Арсеній і Ігнацій. Пасля пераезду ў Гродна ў нас з'явіліся два сыны – Юры і Яўген. Часцей мы адпачывалі ў Браславе, але заўсёды бывалі ў родных мясцінах, якімі для ўсіх нас сталі і Шаркоўшчына, і Астаноўка, і Ракаўцы. Тут магілы продкаў, а таксама майго вучня Дарафеева Барыса Фёдаравіча, здаецца, першага доктара медыцынскіх навук, месца нараджэння якога Шаркоўшчынскі раён.

З даўняга хобі-заняткаў па гісторыі медыцыны вырасла захапленне краязнаўствам. Супрацоўнічаў з мясцовым краязнаўцам Кліменціем Кожанам, быў на канферэнцыях, прысвечаных памяці "вечнага вандроўніка" Язэпа Драздовіча ў Германавічах. Займаўся даследаваннем жыцця і дзейнасці Язэпа Драздовіча, устанавіў дату і абставіны яго смерці. Пісаў пра медыкаў раёна – Герасімовіча, Шырана, амаль закончыў гісторыю Лужкоўскай сярэдняй школы 1940-1941 гг, дзе выкладалі мама Антаніна Фёдараўна, Язэп Драздовіч і Усевалад Шыран (анатомію чалавека).

Мабыць, галоўнае – Шаркоўшчынскі край, Дзісеншчына прырaслі да мяне духоўным гаючым анклавам, дзе не толькі належыла пакланяцца продкам, але і пачэрпнуць жыватворны і натхняльны нектар успамінаў маладосці. Асабліва адчуваю гэта цяпер, калі я стаў членам-карэспандэнтам Нацыянальнай акадэміі навук, акадэмікам Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, маю за плячыма 70 гадоў і адчуваю вострую неабходнасць азірнуцца, падумаць аб перажытым, зрабіць абагульненні ва ўсім зробленым на нялёгкіх сцежках медыка-біялагічнай навукі, акадэмічнага і грамадскага жыцця і на жыццёвых дарогах.

19 ліпеня 2003 года зноў сумная дарога паклікала мяне ў Шаркоўшчыну: 17 ліпеня на 92-м годзе жыцця памёр бацька – Георгій Нікіфаравіч. Апошняя яго просьба пахаваць побач з жонкай на роднай Дзісеншчыне. Яго просьба была выканана. На беразе рэчкі Янкі – блізкага прытоку Дзісенкі знайшоў ён вечны спачын побач з роднымі і блізкімі, сярод якіх было нямала яго пацыентаў.

З тых часоў прайшло 10 гадоў. Па-ранейшаму працую на ніве акадэмічнай навукі, цяпер на пасадзе галоўнага навуковага супрацоўніка Навукова-практычнага цэнтра НАН Беларусі па харчаванню. Раблю ўсё магчымае, каб харчаванне насельніцтва Беларусі было не толькі разнастайным, але і паўнацэнным. Адначасова працягваю даследаванні ў Інстытуце біялагічна актыўных злучэнняў НАН Беларусі (Гродна) і выкладаю фізіялогію харчавання ў Гродзенскім універсітэце імя Янкі Купалы.

Не пакідаю хобі – краязнаўства, дапамагаю станаўленню і развіццю музейнай справы на Дзісеншчыне, перадаю свой немалы архіў у г. Глыбокае, дзе па волі лёсу з'явіўся на свет у цяжкі ваенны час.

# Новыя патрабаванні да стажу галоўнага бухгалтара закрануць толькі прызначаных на пасаду з 1 студзеня 2014 года

**Новыя патрабаванні да стажу галоўнага бухгалтара закрануць тых асоб, якія будуць прызначацца на пасаду з 1 студзеня 2014 года. Аб гэтым паведаміла начальнік галоўнага ўпраўлення рэгулявання бухгалтарскага ўліку, справаздачнасці і аўдыту Міністэрства фінансаў Беларусі Таццяна Рыбак на гэтым тыдні ў час анлайн-канферэнцыі на сайце БЕЛТА.**

Растлумачваючы палажэнні новага закона аб бухгалтарскім уліку і справаздачнасці, які ўступіць у сілу з 1 студзеня 2014 года, Таццяна Рыбак адзначыла, што ён павышае патрабаванні да галоўных бухгалтараў. У прыватнасці, з 1 студзеня пасаду галоўнага бухгалтара зможа займаць асоба з вышэйшай спецыяльнай адукацыяй і стажам работы не меншым за тры гады.

«Аднак новыя патрабаванні распаўсюджваюцца толькі на асоб, якія назначаюцца на пасаду галоўнага бухгалтара з 1 студзеня 2014 года», - падкрэсліла Таццяна Рыбак. Такім чынам, спецыялісты, якія працуюць цяпер галоўным бухгалтарам і маюць стаж меншы за тры гады, змогуць прадоўжыць працаваць у той жа арганізацыі. Аднак працаўладкавацца ў іншую арганізацыю на гэту пасаду такі спецыяліст не зможа да таго моманту, пакуль яго стаж работы па спецыяльнасці не складзе тры гады, растлумачыла яна.

Таццяна Рыбак падкрэсліла, што ў мэтах эфектыўнай рэалізацыі рашэння аб прымяненні міжнародных стандартаў фінансавай справаздачнасці павышаны патрабаванні да галоўных бухгалтараў грамадска значных арганізацый. Для спецыялістаў, якія прэтэндуюць на пасаду галоўнага бухгалтара грамадска значнай арганізацыі, новы закон прадугледжвае нацыянальную сертыфікацыю. «З 1 студзеня 2017 года такія спецыялісты павінны будуць мець сертыфікат прафесійнага бухгалтара, які неабходна будзе пацвярджаць не радзей за адзін раз у два гады. Сертыфікат прафесійнага бухгалтара будзе выдаваць Мінфін, а сертыфікат прафесійнага бухгалтара банка - Нацбанк», - удакладніла яна.

Парадак правядзення атэстацыі і пацвярджэння кваліфікацыі прафесійнага бухгалтара будзе ўстаноўлены Саветам Міністраў і Нацыянальным банкам.

*Кар. БЕЛТА*



# Беларусь старэе: кожны пяты жыхар — старэйшы за 60 гадоў

**У Беларусі на пачатак года пражывалі 1 млн. 859 тыс. чалавек ва ўзросце 60 гадоў і болей — 19,6% ад агульнай колькасці насельніцтва краіны, або практычна кожны пяты.**

Аб гэтым паведаміла прэс-сакратар Нацыянальнага статыстычнага камітэта Вольга Клаўсуць.

Згодна з прынятай у геранталогіі класіфікацыяй да пажылых адносяцца людзі ва ўзросце ад 60 гадоў і болей. За апошнія дзесяць гадоў колькасць чалавек пажылога ўзросту ў цэлым па краіне зменшылася на 22,6 тыс. чалавек, або на 1,2%. На пачатак 2013 года ў Беларусі пражываў 541 чалавек ва ўзросце 100 гадоў і болей,



85% з іх — жанчыны.

Агульнай заканамернасцю змены ўзроставага складу насельніцтва краіны з'яўляецца яго старэнне.

У адпаведнасці са шкалой дэмаграфічнага старэння ААН насельніцтва лічыцца старым, калі доля асоб ва ўзросце ад 65 гадоў складае 7% і больш. На пачатак года ў краіне доля гэтай узроставай групы насельніцтва дасягнула 13,8%, у гарадах і пасёлках гарадскога тыпу — 11,4%, у сельскай мясцовасці — 21,5%.

*БЕЛТА*

# Міліцыя просіць часцей фатаграфаваць сваякоў, у выпадку згубы чалавека актуальнае фота вырашае многае

Па статыстыцы, у Беларусі больш 95% зніклых грамадзян, пра якіх заяўляюць сваякі, знаходзяцца на працягу першых 10 сутак. У залежнасці ад акалічнасцяў знікнення чалавека, адмыслоўцы рэкамендуюць або неадкладна звярнуцца ў міліцыю, або пачаць з самастойных пошукаў. Калі ў сяброў і знаёмых вашага блізкага чалавека не апынулася, можна звярнуцца ў Бюро рэгістрацыі няшчасных выпадкаў. Сюды паступае інфармацыя аб усіх не ўсталяваных хворых, неапазнаных трупах, а таксама асобах, якія пацярпелі ў выніку няшчасных выпадкаў.

Старэйшы оперупаўнаважаны па асоба важных справах Галоўнага ўпраўлення крымінальнага вышуку крымінальнай міліцыі МУС РБ Сяргей Куляшоў і камандзір пошукава-выратавальнага атрада «Анёл» Сяргей Коўган звярнуліся да карыстальнікаў TUT.BY з просьбай часцей фатаграфаваць родных і блізкіх: у выпадку згубы чалавека актуальнае фота вырашае многае. У чарговым выпуску праграмы «Вугал падазрэння» пра зніклых беларусаў яны таксама распавялі пра тое, як засцерагчы састарэлых сваякоў і ў якіх выпадках заяўляць пра згубу трэба неадкладна.

# Спынім крадзеж сельгаспрадукцыі і яе продаж

**І.В. Рыпінскі,**
*намеснік начальніка ААПП Глыбоцкага РАУС*

У верасні-кастрычніку 2013 года органамі ўнутраных спраў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у мэтах выяўлення асобаў, якія здзейснілі крадзеж прадукцыі ў сельскагаспадарчых арганізацыях, праводзіцца комплекс прафілактычных мерапрыемстваў, накіраваных на мінімізацыю фактаў крадзяжоў з прамысловых аб'ектаў і аб'ектаў аграпрамысловага комплексу. У наш час маюць месца выпадкі рэалізацыі на рынках рэспублікі, а таксама ў месцах не прызначаных для гандлю, рэалізацыі прадукцыі, выкрадзенай у сельскагаспадарчых арганізацыях, у тым ліку з палёў.

Паводле дзейснага адміністрацыйнага заканадаўства, за дробнае выкраданне маёмасці шляхам крадзяжу, махлярства, злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, прысваення ці растраты, а роўна замах на такі крадзеж – прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па артыкуле 10.5. «Дробны крадзеж» Кодэкса Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні. Санкцыя дадзенага артыкула прадугледжвае адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт, а ў выпадку здзяйснення дробнага крадзяжу паўторна на працягу аднаго года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за такія ж парушэнні – прадугледжвае адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу ў памеры ад трыццаці да пяцідзесяці базавых велічынь ці адміністрацыйны арышт.

За парушэнне правіл гандлю і аказання паслуг насельніцтву, у выглядзе рэалізацыя тавараў з рук, латкоў, калясак, аўтамабіляў, а таксама з выкарыстаннем іншых прыстасаванняў у месцах, забароненых заканадаўствам, прадугледжана адміністрацыйная адказнасць па ч. 8 арт. 12.17 «Парушэнне правіл гандлю і аказання паслуг насельніцтву» Кодэкса Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні. Санкцыя дадзенага артыкула прадугледжвае адміністрацыйную адказнасць у выглядзе папярэджання ці накладання штрафу ў памеры да трох базавых велічынь.

Паводле дзейснага крымінальнага заканадаўства па арт. 205 КК Рэспублікі Беларусь «Таемнае выкраданне маёмасці (крадзеж)» прадугледжана мінімальнае пакаранне ў выглядзе грамадскіх работ, ці штрафу, а максімальнае ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад трох да дванаццаці гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Пра факты парушэння закона вы можаце паведаміць у Глыбоцкі РАУС па тэлефонах: МТС: 597-21-74, Велком: 314-89-02, 2-26-82, 2-27-02 ці 102.

# Любяць жа шаркоўскія паласавацца дармовай рыбай!

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

**Верасень выдаўся сцюдзёным, асабліва другая палова месяца. Дзень няўхільна памяншаецца, а ноч становіцца ўсё даўжэй, кожны дзень ідзе дождж. У такія дні здаецца, што час запавольвае свой ход, жыццё як бы замірае ў чаканні чагосьці незвычайнага, новага. А вось працы ў супрацоўнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі менш не становіцца.**

З першых дзён кастрычніка пачынаецца загоннае паляванне на дзікіх жывёл, якое патрабуе сталага кантролю з боку інспекцыі за паляўнічымі. Яшчэ не перавяліся аматары дармаўшчыны, нягледзячы на тое, што кошты на мяса дзіка мінімальныя. Працягваецца рыбалоўная пуціна ў рыбгасе «Навінкі», ураджай рыбы выгадаваны не дрэнны, але яго яшчэ неабходна і выгодна рэалізаваць. Працаўнікі міжрайінспекцыі сумесна з супрацоўнікамі міліцыі аказваюць сталую дапамогу рыбгасу ў выяўленні і спыненні крадзяжоў сажалкавай рыбы.

Так было і 25 верасня, рэйдавая група Глыбоцкай міжрайінспекцыі каля 19 гадзін прыбыла на тэрыторыю рыбаводных сажалак рыбгаса і стала абследаваць тэрыторыю. Толькі вòплескі рыбы, якая нагуляла за лета тлушчу, ды крыкі птушак парушалі цішыню, але гэта толькі на першы погляд – усё спакойна. Дасведчаныя інспектары ведаюць, што з наступленнем змяркання браканьеры любяць наведаць сажалкі і паласавацца рыбкай. Няўмольна апускаецца змярканне, усё цяжэй разгледзець прадметы, але вось у прылеглым да сажалак лесе раздаюцца падазроныя гукі, інспектары, стаіўшыся, чакаюць няпрошаных госцяў, так і ёсць. Вось група з 5 чалавек перапезла канал па дрэве, якое звалілася і накіравалася на сажалку. Зразумела, што проста так людзі на сажалкі не прыйшлі, значыць у правільным месцы інспектары чакалі «госцяў». Не прайшло і дзесяці хвілінаў, як здзіўленыя няпрошаныя госці ўжо сядзелі на беразе ў асяроддзі інспектараў і прасілі адпусціць іх, бо яны – добрыя. Рыбу злавіць паспеў толькі адзін з «госцяў», але набор рыбалоўных снасцяў у затрыманых наўпрост паказваў на намеры няўдачлівых рыбакоў. Усе затрыманыя парушальнікі сталіся жыхарамі г.п. Шаркоўшчына, дарэчы, жыхары гэтага раёна з'яўляюцца, калі можна так бы мовіць, лідарамі, па затрыманнях за крадзеж сажалкавай рыбы сёлета.

Затрыманых інспектары даставілі ў адміністрацыйны будынак рыбгаса, склалі адміністрацыйныя пратаколы, канфіскавалі рыбалоўныя снасці, зараз парушальнікаў чакае раённы суд і штраф, у памеры ад 10 да 50 базавых велічынь. Вось такая дарагая незаконная рыбалка, нават за мінімальны штраф можна купіць больш 30 кг. добрага сажалкавага карпа.

Рэйдавыя мерапрыемствы інспектарамі і працаўнікамі міліцыі будуць працягвацца да канца пуціны, напэўна, яшчэ будуць затрыманыя дзясяткі аматараў пажывіцца за чужы рахунак, але гэта ўжо іншая гісторыя.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету просіць грамадзян пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства паведамляць па тэлефонах: 8-02156 -28670 «гарачая лінія» – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 – мтс.



# Пастаўскія кандытары заваявалі залаты медаль на выставе "Хлебная і кандытарская справа"

**Залаты медаль і трэцяе месца заваявалі кандытары раённага спажывецкага таварыства на 9-ай міжнароднай спецыялізаванай выстаўцы "Хлебная і кандытарская справа", якая праходзіла з 10 па 13 верасня ў Мінску.**

Гэтая выстава з'яўляецца прафесіянальным форумам хлебапёкаў і кандытараў не толькі нашай краіны, але і краін блізкага і далёкага замежжа. Дзелавая частка праграмы ўключала рэспубліканскі агляд якасці хлебабулачных і кандытарскіх вырабаў "Ласунак", канферэнцыю для спецыялістаў па актуальных пытаннях галіны, міжнародны чэмпіянат кандытарскага мастацтва, майстар-класы, "круглыя сталы" і іншыя мерапрыемствы.

У спецыялізаванай выстаўцы ўдзельнічала больш за 60 кампаній з розных краін свету, якія з'яўляюцца асноўнымі вытворцамі хлебабулачных і кандытарскіх вырабаў, а таксама вытворцамі і пастаўшчыкамі абсталявання, сыравіны, інгрыдыентаў і многага іншага, што неабходна для паспяховага функцыянавання галіны.

*Крыніца: Пастаўскі край*

# Вяскоўцы дамагліся, каб цягнік Віцебск – Мінск спыняўся ў Загацці

**Кастусь Шыталь**

**Беларуская чыгунка ўводзіць з 27 кастрычніка 2013 года прыпынак на станцыі "Загацце" (Глыбоцкі раён) для міжрэгіянальнага цягніка №626 Віцебск-Мінск.**

Да мая 2013 года ў Загацці спыняліся цягнікі Мінск – Полацк і Віцебск – Лынтупы, што забяспечвала добрую камунікацыю вёскі Ломашы ды суседніх паселішчаў з навакольным светам. Потым БЧ адмяніла абодва цягнікі, прызначыла замест іх цягнік №625/626 Мінск – Віцебск, які праходзіў Загацце без прыпынку.

Вяскоўцы пачалі дамагацца ад чыгункі, каб цягнік спыняўся на станцыі "Загацце". У чэрвені ў адміністрацыю БЧ быў накіраваны зварот з больш як 200 подпісамі. Адметна, што справу ўзяла на сябе моладзь, якая каардынавала дзеянні праз суполку ў сацыяльнай сетцы "ВКонтакте". Большую частку подпісаў сабрала маладая дзяўчына Леся Бурта.

Спачатку чыгуначнікі адказвалі, што спыняць цягнік у Загацці "нявыгадна з эканамічных прычынаў". Перапіска і перазтэлефанаванні з кіраўніцтвам Беларускай чыгункі доўжыліся яшчэ некалькі месяцаў. Урэшце, БЧ задаволіла патрабаванні вяскоўцаў напалову: на станцыі "Загацце" будзе спыняцца цягнік, які ідзе з Віцебска на Мінск.

Пачынаючы з 27 кастрычніка, цягнік №626 Віцебск–Мінск будзе прыбываць у Загацце а 00:17, адпраўляцца а 00:19. З Віцебска цягнік будзе адпраўляцца на пяць хвілін раней - а 21:30. Днямі стала вядома, што Беларуская чыгунка ўводзіць цягнік №683 Мінск – Полацк, які будзе курсіраваць па пятніцах і нядзелях. Ён адпраўляецца з Мінска а 17:10, прыбывае ў Загацце а 22:02.

Жыхары Ломашаў і навакольных вёсак паказалі прыклад таго, як грамадзяне могуць паспяхова бараніць свае інтарэсы перад дзяржаўнымі структурамі. Вынік быў дасягнуты праз ініцыятыўнасць і настойлівасць, а таксама праз салідарнасць вяскоўцаў, якія пагадзіліся падпісацца пад зваротам.

# «Дармаеды» будуць больш плаціць за сацыяльныя паслугі

У Беларусі прапрацоўваецца пытанне па вызначэнні механізму кампенсацыі непрацуючым эканамічна актыўным насельніцтвам часткі дзяржаўных выдаткаў на аказанне ім і іх сем'ям сацыяльных і іншых паслуг, што датуюцца дзяржавай.

Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Пётр Грушнік на анлайн-канферэнцыі, якая нядаўна прайшла на сайтах БелТА і міністэрства.

Пётр Грушнік адзначыў, што ў адпаведнасці з артыкулам 56 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь грамадзяне абавязаны прымаць удзел у фінансаванні дзяржаўных расходаў шляхам выплаты дзяржаўных падаткаў, пошлін і іншых плацяжоў.

«З пункту гледжання сацыяльнай справядлівасці выплата падаткаў павінна быць забяспечана ўсімі грамадзянамі працаздольнага ўзросту ў нашай, ды і ў любой іншай краіне, — сказаў першы намеснік міністра.

– Наша дзяржава фінансуе сістэмы аховы здароўя, адукацыі, культуры і спорту, жыллёва-камунальнай гаспадаркі, грамадскі транспарт, сувязь і іншыя аб'екты сацыяльнай інфраструктуры. на наш погляд, выдаткі на прадастаўленне гэтых паслуг маглі б кампенсавацца ўсімі грамадзянамі ў выглядзе выплаты розных падаткаў».

*БелТА*




*Алену Іванаўну Гаравую*

**сардэчна віншуем з юбілеем!**

Прожито много разных дней,
Дней горьких, радостных, счастливых,
И вот настал твой юбилей –
Один из самых дней красивых.
Пусть эта замечательная дата
В твоей душе оставит добрый след,
Желаем мы всего, чем жизнь богата –
Здоровья, счастья, долгих лет.



*Сям'я Гарачкаў.*

## МНС інфармуе

**на 01.10.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 791;
Гібель людзей – 98, з іх 1 дзіця;
Урон – 3782,033 млн. руб.

**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 40;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 308.4 млн. руб.



# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»











## ПАНЯДЗЕЛАК, 7 кастрычніка



**06.00, 07.20, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.35** Новости.
**07.05, 08.05** Деловая жизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.00 «Два дня»** (Россия).
**12.10** День в большом городе.
**13.20** Клуб редакторов.
**14.10** Вокруг планеты.
**15.15, 18.40** Новости региона.
**15.25** Журналистское расследование.
**15.55** Завтра – это мы!
**16.25** Все путем!
**16.50** Бенефис В.Моисеенко и В.Данильца
**19.20** Спец.репортаж АТН.
**19.40, 23.15** Зона Х.
**19.55** Форум.
**21.00** Панорама.
**21.45 «Ковчег»**
**23.50** День спорта.
**00.00 «Ворон»**



**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Закрытая школа».**
**12.10** Премьера. «Самый лучший муж».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Доброго здоровья!»
**13.55** «Модный приговор».
**15.00** Премьера. **«Ясмин».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. **«Домработница»**
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Владислав Сыроко-мля.Больше,чемпоэт».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. Ток-шоу «Позиция».
**22.05** «Вечерний Ургант».
**22.40 «Хищник 2».**
**00.40-01.10** Ночн.новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05 «Журов-2»** (Россия).
**10.20** Навіны надвор'я.
**10.55 «Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**12.10 «Калина красная»** (СССР).
**14.15 «Завет»** (Сербия-Франция).
**16.40** Белорусское времечко.
**17.55 «Журов-2»** (Россия).
**19.00 «Палач»** (Россия). 1-я и 2-я серии.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30 «Интерны»** (Россия).
**23.05 «Реальные пацаны»** (Россия).
**00.05 «Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.40** «Большой завтрак».
**10.20** «Поющие города». Дневник. Гродно.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Такова судьба».
**12.30** «Джейми: обед за 30 минут».
**13.00** «Поющие города». Дневник. Гродненская область.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.30** «Звездный рин г. Новый сезон. Битва кавер-бэндов». Группа «NO COMMENT BAND» против группы «БАВАРИЯ».
**15.30** «Другая страна». «Казахстан. Где юрты соседствуют с небоскребами».
**16.20** «Наше дело».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «По закону».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Секреты древних красавиц».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Поющие города». Дневник. Жлобин.
**20.25** «Кино»: **«СКАЙЛАЙН»**. США
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Военная тайна».
**00.50** «Эликсир молодости».



**7:00** ПраСвет
**7:25** Зона «Свабоды»
**7:55** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**8:25** Два на два
**8:50** «Рабінзоны Мантсі-нсаары», дак. фільм
**9:50** Euromaxx
**10:20** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм : ч. 2
**10:55 «Час гонару»**: 54 серыя
**11:40** ПраСвет
**12:10** Зона «Свабоды»
**12:40** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**13:10** «Рабінзоны Мантсінсаары», дак. фільм
**14:05** Праект «Будучыня»
**14:35 «Да смерці трэба паспець»**
**16:05 «Палітыканы»**: 6 с.
**16:55** «А калі б так здарылася?»
**17:35** Відзьмо-невідзьмо :выд. 38
**18:00** Еўропа сёння
**18:30** Назад у будучыню
**18:40** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра»
**19:00** Навіны
**19:15** Агляд медыяў
**19:20** Агляд падзеяў культуры
**19:25** Dэвайс
**19:30** Навіны
**19:40** Размова У. Мац-кевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай
**19:50** Не прапусці!
**20:00** Навіны
**20:10** Агляд падзеяў культуры
**20:15** Dэвайс
**20:35** Асабісты капітал
**21:00** Аб'ектыў
**21:25 «Падстаноўка, Нью-Ёрк»**
**0:30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**1:05** Асабісты капітал
**1:30** Аб'ектыў
**1:55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы

## ЧАЦВЕР, 10 кастрычніка



**06.00, 07.20, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Новости.
**07.05, 08.05** Деловая жизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10 «Дыши со мной. Счастье взаймы»** Заключительная серия.
**10.05 «Чкалов»** (Россия). 2-я серия.
**11.05** Док.цикл «Невероятные истории любви» (Украина).
**12.10** День в большом городе.
**13.20 «Ковчег»**
**15.15, 18.40** Новости региона.
**15.25 «Тридцатилетние»** (Россия).
**16.30** Коробка передач.
**17.10** Тайны следствия.
**17.40 «Дыши со мной. Счастье взаймы»** Заключительная серия.
**19.20** Сфера интересов.
**19.40, 23.35** Зона Х.
**19.55 «Чкалов»** (Россия). 3-я серия.
**21.00** Панорама.
**21.55 «Ковчег»**
**00.10** День спорта.
**00.25** Сфера интересов.
**00.40 «Тридцатилетние»**



**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** «Жить здорово!».
**10.25** «Контрольная закупка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Закрытая школа».**
**12.10** Премьера. «Самый лучший муж».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Доброго здоровьица!»
**13.55** «Модный приговор».
**15.00** Премьера. **«Ясмин».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. **«Домработница»**
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Наша Белараша».
**18.55** «Пусть говорят».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. **«Разведчицы».**
**23.25** «Вечерний Ургант».
**00.00** Остросюжетный фильм **«Морской пехотинец 2».**
**01.50-02.20** Ночн.новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05 «Близнецы» (Россия)**. 2-я серия.
**10.20** Выше крыши.
**10.55 «Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).
**12.15 «Палач»** (Россия). 3-я и 4-я, заключительная, серии.
**14.05 «Интерны»** (Россия).
**15.40 «Реальные пацаны»** (Россия).
**16.45** Белорусское времечко.
**17.55 «Близнецы» (Россия)**. 2-я серия.
**18.55** Гандбол. Лига чемпионов. Динамо-Минск — Ваккер (Швейцария).
**20.35** Юмористическая программа **«Женская лига. Банановый рай»** (Россия).
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30 «Интерны»** (Россия).
**23.05 «Реальные пацаны»** (Россия).
**00.05** Время футбола.
**00.45 «Следствие ведет Да Винчи»** (Канада).






**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**09.00** «Поющие города». Дневник. Мозырь.
**09.10** «Нам и не снилось»: «Магия власти». 2-я часть.
**10.05** «Добро пожаловаться».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Слово женщине». Сериал.
**12.30** «Джейми: обед за 30 минут».
**13.00** «Приключения дилетанта».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Поющие города». Дневник. Мозырь.
**14.00** «Кино»: **«СЛУЧАЙНЫЙ МУЖ»**. США - Ирландия, 2008 г.
**15.45** «Чистая работа».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «По закону».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Нам и не снилось»: «Магия власти». 3-я часть.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Поющие города». Дневник. Калинковичи.
**20.30** «Кино»: **«ДАЖЕ НЕ ДУМАЙ»**. Россия, 2003 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Тайны мира с Анной Чапман».
**00.00** «Автопанорама».
**00.25** «Док.спецпроект»: «Кто правит миром?».



**7:00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**8:35** Маю права
**8:55** Аб'ектыў
**9:25** Праект «Будучыня»
**9:50** Над Нёмнам
**10:10 «Глыбокая вада–2»**: 5 серыя
**10:55** Два на два
**11:25** Відзьмо-невідзьмо : выд. 38
**11:50** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**13:25** Маю права
**13:50** Аб'ектыў
**14:20** Праект «Будучыня»
**14:50** Над Нёмнам
**15:05 «Глыбокая вада–2»**: 5 серыя
**15:55** Два на два
**16:25** Відзьмо-невідзьмо : выд. 38
**16:50 «Ранча»**: 17 серыя
**17:45** Маю права
**18:05** Euromaxx
**18:35** Моўнік
**18:50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда»
**19:00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**19:15** Агляд медыяў
**19:20** Агляд падзеяў культуры
**19:25** Сальда
**19:30** Навіны
**19:40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай
**19:50** Не прапусці!
**20:00** Навіны
**20:10** Агляд падзеяў культуры
**20:15** Сальда
**20:30** Рэпартэр
**21:00** Аб'ектыў (галоўнае выданне)
**21:25 «Бландзінка»**: 10 серыя
**22:10** «Зомбі. Цёмны бок імперыі»
**22:55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**0:25** Рэпартэр
**0:50** Аб'ектыў
**1:20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы







## ПЯТНІЦА, 11 кастрычніка



**06.00, 07.20, 08.15** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.50** Новости.
**07.05, 08.05** Деловая жизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Премьера! **«Сердце Марии»** (Россия). 1-я серия.
**10.05 «Чкалов»** (Россия). 3-я серия.
**11.05** Док.цикл «Невероятные истории любви» (Украина).
**12.10** День в большом городе.
**13.20 «Ковчег»**
**15.15, 18.40** Новости региона.
**15.25 «Тридцатилетние»** (Россия).
**16.30** Док.-биографический цикл «Моя правда» (Украина). Фильм «Нонна Мордюкова. Ненавижу быть сильной». Часть 2-я.
**17.35 «Сердце Марии»** (Россия). 1-я серия.
**19.20, 00.20** Зона Х. Итоги недели.
**19.50 «Чкалов»** (Россия). 4-я серия.
**21.00** Панорама.
**21.55** Доверяй и проверяй.
**22.30** Торжественное открытие Международного музыкального фестиваля «Золотой шлягер-2013 в Могилеве».
**01.05** День спорта.
**01.20 «Тридцатилетние»** (Россия).



**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** «Жить здорово!».
**10.25** «Контрольная закупка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Закрытая школа».**
**12.10** Премьера. «Самый лучший муж».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Доброго здоровьица!»
**13.55** «Модный приговор».
**15.00** Премьера. **«Ясмин».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Премьера. **«Домработница»**
**17.00** «В наше время».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Жди меня. Беларусь».
**18.55** Поле чудес.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Хочу в ВИА ГРУ».
**23.20** «Что?Где?Когда?» в Беларуси.
**00.35** Пирс Броснан, Робин Уильямс в комедии **«Миссис Даутфайр».**
**02.55-03.25** Ночн.новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05 «Близнецы» (Россия)**. 3-я серия.
**10.15** Время футбола.
**11.30** Детектив **«Задача с тремя неизвестными»** («Беларусьфильм»). 1-я и 2-я серии.
**14.00 «Интерны»** (Россия).
**15.40 «Реальные пацаны»** (Россия).
**16.45** Юмористическая программа **«Женская лига. Банановый рай»** (Россия).
**17.20** Док.сериал «Азбука хорошего самочувствия» (Австралия).
**17.55 «Близнецы» (Россия)**. 3-я серия.
**18.55** Хоккей. КХЛ. Динамо (Минск) - Спартак. Прямая трансляция.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Битва экстрасенсов». Шоу-программа (Россия).
**22.55** Футбол. Отборочный матч чемпионата мира 2014. Испания-Беларусь. Прямая трансляция.
**01.00** Репортер «Белорусского времечка».
**01.40** Фактор силы.
**02.10** Арена.





**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**09.00** «Поющие города». Дневник. Калинковичи.
**09.20** «Нам и не снилось»: «Магия власти». 3-я часть.
**10.05** «Автопанорама».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Слово женщине». Сериал.
**12.30** «Джейми: обед за 30 минут».
**13.00** «Здравствуйте, доктор».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Поющие города». Дневник. Калинковичи.
**14.05** «Кино»: **«ДАЖЕ НЕ ДУМАЙ»**. Россия, 2003 г.
**15.45** «Какие люди».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «По закону».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Такова судьба».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Поющие города». Дневник. Речица.
**20.30** «Комедия по пятницам»: **ПЛОХОЕ НАСТРОЕНИЕ**
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Пища богов».
**00.00** Европейский покерный турнир.
**00.50** «Кино»: **«ДЖИМ С ПИККАДИЛЛИ»**. Великобритания, 2004 г.



**7:00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**8:30** Рэпартэр
**8:55** Аб'ектыў
**9:25** Euromaxx
**9:55** Моўнік
**10:05 «Бландзінка»**: 10 серыя
**10:50** «Зомбі. Цёмны бок імперыі»
**11:35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**13:10** Рэпартэр
**13:35** Аб'ектыў
**14:05** Euromaxx
**14:30** Моўнік
**14:45 «Бландзінка»**: 10 серыя
**15:30** «Зомбі. Цёмны бок імперыі»
**16:15** МакраФон: «Троіца», фільм-канцэрт
**16:50 «Ранча»**: 18 серыя
**17:40** Рэпартэр
**18:10** На колах
**18:35** Гісторыя пад знакам Пагоні
**18:50** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда»
**19:00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**19:15** Агляд медыяў
**19:20** Агляд падзеяў культуры
**19:25** Dэвайс
**19:30** Навіны
**19:40** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай
**19:50** Не прапусці!
**20:00** Навіны
**20:10** Агляд падзеяў культуры
**20:15** Dэвайс
**20:30** ПраСвет
**21:00** Аб'ектыў (галоўнае выданне)
**21:25 «Дом»**: 5 серыя
**23:05** Эксперт
**23:35** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**1:10** ПраСвет
**1:35** Аб'ектыў
**2:00** Вагон

## СУБОТА, 12 кастрычніка




**06.50** Комедия **«Девчата»**
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.
**09.10** Земельный вопрос.
**09.35** **«Ласточкино гнездо»**
**12.10** Здоровье.
**13.00** Все путем!
**13.30** Наши.
**13.45** Тайны следствия.
**14.15** Вокруг планеты.
**15.15** Новости региона.
**15.30** «Звездные вдовцы».
**16.35** Доверяй и проверяй.
**17.05** Премьера! Анимационный фильм **«Аэротачки»** (США-Гонконг).
**18.35** Новости. Центральный регион.
**19.15** Премьера! Мелодрама **«Я думал, ты будешь всегда…»** (Украина).
**21.00** Панорама.
**21.40** Доверяй и проверяй.
**22.15** Международный музыкальный фестиваль «Золотой шлягер-2013 в Могилеве». Концерт «Место встречи — танцплощадка».
**00.00** День спорта.
**00.10** **«Ласточкино гнездо»**




**07.00** «Субботнее утро».
**08.00**, **09.00** Наши новости.
**09.05** «Смешарики». Нов.приключения.
**09.20** «Здоровье».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Идеальный ремонт».
**12.05** «Умницы и умники».
**13.05** К 80-летию Марка Захарова. Премьера. «Любить Дракона».
**14.05** «Робинзон». Многосерийный фильм.
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** Дженнифер Лопез, Джейн Фонда в фильме **«Свекровь - монстр».**
**18.20** «Один против всех».
**19.05** Премьера. «Минута славы. Дорога на Олимп!».
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «ДОстояние Республики: Давид Тухманов».
**23.20** «Успеть до полуночи».
**00.00-02.05** Алек Болдуин в фильме Аль Пачино **«В поисках Ричарда».**




**07.35** Мультфильм **«Кораблик».**
**07.45** Фильм-сказка **«Приключения желтого чемоданчика»** (СССР).
**09.05** Внеклассный час.
**09.25** Телебарометр.
**09.30** Фактор силы.
**09.55** Авантюрная комедия **«Блеф»** (Италия).
**11.50** «СуперИнтуиция. Битва полов». Развлекательная шоу-программа (Россия).
**13.00** Под грифом «Известные».
**13.35** Док.сериал «Азбука хорошего самочувствия» (Австралия).
**14.15** Юмористическая программа **«Женская лига. Банановый рай»** (Россия).
**14.45** **«Такси»** (Украина).
**16.10** «Битва экстрасенсов». Шоу-программа (Россия).
**17.25** Лирическая комедия **«Будьте моим мужем»** (СССР).
**19.15** Ваше лото.
**19.55** Лотерея «Пятерочка».
**20.15** Великолепная семерка. Возвращение.
**20.55** Телебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** «СуперИнтуиция. Битва полов». Развлекательная шоу-программа (Россия).
**22.15** Юмористическая программа «Женская лига. Банановый рай» (Россия).
**22.50** **«Такси»** (Украина).
**00.00** Выше крыши.
**00.30** Дзюдо. Континентальный кубок . Мужчины.




**06.50** «Солдаты. Новый призыв». Сериал.
**07.45** «Кино»: Тьерри Лермитт и Офелия Винтер в фильме **«ПЛОХОЕ НАСТРОЕНИЕ»**. Франция - Испания, 2003 г.
**09.25** «Поющие города». Дневник. Речица.
**09.40** «Чистая работа».
**10.30** «Представьте себе».
**11.30** «Минск и минчане».
**12.05** «Приключения дилетанта».
**12.40** «Секретные территории».
**13.40** «Поющие города». Дневник. Речица.
**13.55** **«БЕЗЫМЯННАЯ ЗВЕЗДА»**.1-я серия.
**15.15** «Военная тайна».
**16.30** «24 часа».
**16.45** «Наше дело».
**17.00** «Большой город».
**17.40** «Эликсир молодости».
**18.35** «Странное дело».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10** «Поющие города». Дневник. Добруш.
**20.20** **«ПУТЬ КАРЛИТО»**.
**23.05** «Звездный рин г. Новый сезон. Битва кавер-бэндов». Группа имени Мерилин Монро против группы Floor Sixteen.
**00.10** «Кино»: Ольга Куриленко в фильме **«СТЕНЫ»**. Израиль-Франция-США, 2009
**02.00** «Смотреть всем!».




**7:00** Інфармацыйна-публіцыстычны блок
**8:30** ПраСвет
**8:55** Аб’ектыў
**9:20** Гісторыя пад знакам Пагоні
**9:35** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Мадла і Туп», «Чацвёра вушэй у пералеску»
**10:10** **«Эміль з Лённэбэр’і»**: 6 серыя
**10:35** Асабісты капітал
**10:55** На колах
**11:25** Два на два
**11:50** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**12:20** Невядомая Беларусь: «Праклятыя і забытыя», дак. фільм : ч. 2
**12:50** МакраФон: «Канцэрт Змітра Вайцюшкевіча ў тэатры "Буфо"»: ч. 2
**13:25** **«Глыбокая вада–2»**: 5 серыя
**14:15** «Зомбі. Цёмны бок імперыі»
**15:00** **«Дом»**: 5 серыя
**16:40** **«Час гонару»**: 54 серыя
**17:30** **«Чароўнае дрэва»**: 4 серыя
**17:55** Еўропа сёння
**18:25** Назад у будучыню
**18:40** Забавы «Ліпі і Мэсі»
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі»
**19:00** «Маё жыццё для Яго», дак. фільм
**20:00** Зона «Свабоды»
**20:30** Відзьмо-невідзьмо
**21:00** Аб’ектыў (галоўнае выданне)
**21:15** Форум (ток-шоу)
**22:00** Суботні сеанс: **«Цябе зваць Жастын»**
**23:40** ПраСвет
**0:05** **«Трэці афіцэр»**: 1 с
**0:50** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Ulis»
**1:25** Аб’ектыў
**1:40** Вагон



## НЯДЗЕЛЯ, 13 кастрычніка




**07.20** Комедия **«Формула любви»** (СССР).
**09.00,12.00,15.00**Новости.
**09.10** Арсенал.
**09.35** **«Ласточкино гнездо»**
**12.10** Зона Х. Итоги недели.
**12.45** Коробка передач.
**13.20** «Врачебные тайны с доктором А.Терещенко».
**13.55** Завтра – это мы!
**14.25** «Terra incognita. Беларусь неизвестная».
**15.15** Новости региона.
**15.30** Клуб редакторов.
**16.15** Спец.репортаж АТН.
**16.35** Приключенческая комедия **«101 далматинец»** (США).
**18.20** «Нонна Мордюкова. Ненавижу быть сильной». Часть 2-я.
**19.20** **«О чем молчат девушки»** (Россия).
**21.00** В центре внимания.
**21.55** Журналистское расследование.
**22.35** Торжеств. закрытие Международного музыкального фестиваля «Золотой шлягер-2013 в Могилеве».
**00.20** **«Ласточкино гнездо»**




**07.00** «Воскресное утро».
**08.00**, **09.00** Наши новости.
**09.05** Воскресная проповедь (с субтитрами).
**09.20** «Смешарики. ПИН-код».
**09.35** «Непутев.заметки».
**09.55** «Пока все дома».
**10.50** «Фазенда».
**11.25** «Свадебный переполох».
**12.25** «Брэйн-ринг».
**13.25** «Золотой граммофон». Лучшее за 15 лет.
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** Премьера . «Куб».
**17.35** «Эстрадный коктейль».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дыхание планеты».
**21.40** Премьера сезона. «Ледниковый период».
**00.45-02.30** Эштон Катчер в романтической комедии **«Молодожены».**




**07.30** Мультфильмы **«Дядя Миша», «О том, как гном покинул дом», «Прометей».**
**08.05** Фильм-сказка **«Честное волшебное»** (СССР).
**09.20** Внеклассный час.
**09.40** Телебарометр.
**09.45** Лирическая комедия **«Будьте моим мужем»**
**11.30** Криминальная комедия **«Косяки»** (США).
**13.15** Авантюрная комедия **«Блеф»** (Италия).
**15.05** **«Такси»** (Украина).
**16.30** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Видеожурнал.
**17.05** Хоккей. КХЛ. Динамо (Минск) - Донбасс. Прямая трансляция.
**19.30** Суперлото.
**20.25** Навіны надвор’я.
**21.00** Спортлото 5 из 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Премьера! Мистический триллер **«Масакра»** («Беларусьфильм»).
**23.10** **«Такси»** (Украина).
**00.15** Спорт-кадр.
**00.55** Дзюдо. Континентальный кубок. Мужчины.




**06.15** «Солдаты. Новый призыв». Сериал.
**07.10** «Кино»: **«ПУТЬ КАРЛИТО»**. США, 1993 г.
**09.50** «Поющие города». Дневник. Добруш.
**10.00** «Автопанорама».
**10.30** «Тайны мира с Анной Чапман».
**11.30** «Большой завтрак».
**12.10** «Здравствуйте, доктор».
**12.45** «Золотая коллекция»: **«БЕЗЫМЯННАЯ ЗВЕЗДА»**. СССР, 1978 г. 2-я серия.
**14.10** «Территория заблуждений с Игорем Прокопенко».
**16.00** «Центральный регион».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Поющие города». Дневник. Гомель.
**17.00** «Автопанорама».
**17.30** «Репортерские истории».
**18.00** Концерт Михаила Задорнова.
**19.30** «Неделя».
**20.40** «Поющие города». Дневник. Гомельская область.
**21.15** «Фильм недели»: **«МАТЬ И ДИТЯ»**. США - Испания, 2009 г.
**23.45** «Арт-хаус»: **«НАСТРОЙЩИК»**. Россия - Украина, 2004 г.




**7:00** Аб’ектыў
**7:15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі»
**7:45** **«Эміль з Лённэбэр’і»**: 6 серыя
**8:05** **«Калі сэрца ў чаканні»**: 6 серыя
**8:35** Без рэтушы: «Хрушчоўкі» – гісторыя вялікага падману», рэпартаж, 2013 г., Беларусь
**8:50** Над Нёмнам
**9:10** Рэмарка
**9:35** Рэпартэр
**10:05** **«Прыгоды пана Міхала»**: 6 серыя
**10:35** Еўропа сёння
**11:05** Спазнай свет: «Рэлігійныя турмы»
**11:40** Маю права
**12:00** **«Бландзінка»**: 10 серыя
**12:45** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Ulis»
**13:20** **«Цябе зваць Жастын»**
**14:55** «Маё жыццё для Яго», дак. фільм
**15:55** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**16:20** Форум (ток-шоу)
**17:10** **«Цудоўны дзень»**, маст. фільм
**18:40** Забавы «Ліпі і Мэсі»
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Рыцар Пятрусь гербу «Тры яблыкі»
**19:00** **«Час гонару»**: 55 серыя
**19:45** «Крэпасць», дак. фільм
**21:00** Два на два
**21:25** Эксперт
**22:55** Фільматэка майстроў: **«Песня-прызнанне Бобі Лонгу»**
**23:55** **«Палітыканы»**: 7 серыя
**0:40** Відзьмо-невідзьмо : выд. 39
**1:05** Два на два
**1:30** Вагон

**На працягу тыдня ў пра-граме магчымыя змены. Перадрук тэлепраграмы забаронены!**

■ Пётр Старобінец

Якія рэформы патрэбныя Беларусі

# Як беларусам купіць здароўе?

**Ва ўсходніх рэгіёнах Беларусі гэта ўжо стала рэальнай праблемай, асабліва ў невялічкіх гарадах: не атрымліваючы дастойнай аплаты за сваю працу, урачы наўпрост сыходзяць у іншыя сферы, альбо з'язджаюць. Людзей лячыць няма каму.**

— Сённяшняе становішча выглядае наступным чынам: сістэма аховы здароўя працуе на больш-менш якасным узроўні, аднак медыцына ў нас ужо не з'яўляецца насамрэч бясплатнай. У той ці іншай форме людзі ўсё роўна вымушаны плаціць. Мы лічым, што сістэма прыватнай медыцыны павінна працаваць па-іншаму. Дакладней – нам неабходна страхавая медыцына, — распавядае пра канцэпцыю рэформаў аховы здароўя ад экспертаў Партыі БНФ старшыня Фронту Аляксей Янукевіч у межах «Еўрапейскага дыялогу пра мадэрнізацыю з Беларуссю».

Але і дзяржаўную, бясплатную медыцыну ў канцэпцыі прапануецца захаваць. Яна павінна забяспечваць гарантаваны мінімум.

**— І што будзе прадугледжваць гэты гарантаваны мінімум?**

— Усё тое ж, што і сёння. Бясплатнай павінна застацца і хуткая дапамога, і шпіталі з паліклінікамі. Старахавая ж медыцына дазволіць лепш працаваць прыватным медыцынскім цэнтрам, якія атрымаюць доступ да больш значных рэсурсаў. А вось для грамадзян іх паслугі будуць каштаваць менш. Сёння ж для большай часткі жыхароў краіны гэтыя паслугі недаступныя, у першую чаргу з-за іх кошту.

Сэнс нашай прапановы ў тым, каб людзі, якія маюць працу і стабільны заробак, мелі рэгулярны доступ да платнай медыцыны. Гэта дазволіць палепшыць якасць паслуг, разгрузіць дзяржаўныя бясплатныя паліклінікі і шпіталі, утрымаць медыкаў у краіне, прапанаваўшы ім добрыя заробкі.

У некаторай ступені гэта дазволіць паменшыць і чэргі на тыя ж аперацыі, таму што нейкая частка грамадзян ужо зможа дазволіць сабе зрабіць іх у прыватных цэнтрах.

Другі бок праблемы — лекі. Бачна, што шлях замяшчэння і абмежавання імпарту ў гэтай галіне памылковы, таму што аб'ектыўна якасць мясцовых лекаў часта значна ніжэйшая. Таму мы выступаем за тое, каб наадварот спрасціць працэдуру іх імпарту, каб нашы грамадзяне мелі доступ да больш якаснай прадукцыі.

**– Аднак гэта адразу адаб'ецца на працы айчынных фармакалагічных вытворчасцяў. Што рабіць з імі? Зачыніць?**

— Яны не вытрымаюць канкурэнцыі шмат па якіх пазіцыях, але ёсць шэраг больш простых медычных сродкаў, якія яны цалкам могуць выпускаць і далей. Нейкае скарачэнне вытворчасці, безумоўна, адбудзецца, але эканамічныя рэформы павінны прадугледжваць і развіццё малога і сярэдняга бізнесу для стварэння новых працоўных месцаў. Калі справа тычыцца здароўя, палітыка пратэкцыянізму, з нашага пункту гледжання, не апраўданая.

**— А страхоўка павінна быць абавязковай ці добраахвотнай?**

— Безумоўна, добраахвотнай. Калі клапоцішся пра сваё здароўе і хочаш атрымліваць больш якасныя паслугі — выдаткоўвай на гэта грошы. Сродкі гэтыя будуць збірацца страхавымі кампаніямі, якія будуць мець магчымасць укладваць іх, напрыклад, у каштоўныя паперы. Тут на ўзроўні заканадаўства трэба дакладна вызначаць усе нюансы – напрыклад, страхавыя фонды не павінны ўдзельнічаць у рызыкоўных фінансавых аперацыях, каб не страціць сродкі сваіх кліентаў. Але калі здарыецца страхавы выпадак, чалавек атрымлівае суму, якой хапае на неабходнае яму лячэнне і рэабілітацыю.

Больш за тое – калі чалавек сыходзіць на пенсію, ён таксама атрымлівае нейкую суму, у залежнасці ад таго, колькі працаваў яго поліс і колькі ён хварэў падчас яго дзеяння. Той, хто быў здаровы, атрымае больш.

**— Такім чынам людзі становяцца і матэрыяльна зацікаўленымі ў тым, каб на працягу жыцця сачыць за сваім здароўем. Такая сістэма ў тым выглядзе, як вы яе прапануеце, працуе сёння ў якіх-небудзь краінах?**

— За невялікімі адрозненнямі гэтая сістэма працуе ў большасці заходнееўрапейскіх краін. Іншая справа, што ў багатых краінах, у той жа Нямеччыне, вялікую частку грошай у страхавыя фонды ўносіць дзяржава. Але нам пакуль складана казаць пра гэта, таму што дзеля гэтага краіне трэба мець моцны эканамічны падмурак.

# А.Лукашэнка даручыў ураду да канца года ўнесці прапановы па новым фармаце «Дажынак»

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка даручыў ураду да канца года ўнесці прапановы па новым фармаце правядзення фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі «Дажынкі». Аб гэтым ён паведаміў сёння, выступаючы на рэспубліканскім фестывалі-кірмашы«Дажынкі-2013», перадае карэспандэнт БЕЛТА.**

Кіраўнік дзяржавы заявіў, што «гэтаму святу, якое так палюбіласявяскоўцам,быць». Разам з тым неабходна падумаць над тым, як праводзіць яго яшчэ больш эфектыўна. Магчыма, «Дажынкі» будуць праводзіцца ў кожным раёне, у адным з аграгарадкоў. Такім чынам, калі кожны год у парадак да ўзроўню рэспубліканскіх стандартаў будзе прыводзіцца адзін аграгарадок, то праз 10-15 гадоў у краіне будзе вялікая колькасць добраўпарадкаваных па самым апошнім слове сельскіх населеных пунктаў. Такім жа чынам можна змяняць і знешні выгляд раённых цэнтраў. «Таму трэба падумаць аб новай сістэме правядзення свята», - сказаў ён.

Прэзідэнт падкрэсліў: «Сямнаццаць гадоў таму, адраджаючы «Дажынкі», мы стараліся не толькі захаваць старадаўнія звычаі, але і надаць ім новае дыханне. Сёння галоўнай падзеяй фестывалю-кірмашу становіцца ўшанаванне герояў жніва, якія сваімі мазолістымі рукамі, майстэрствам і самаахвярнай працай здабываюць беларускае золата, імя якому - хлеб».

Паводле яго слоў, сучасныя «Дажынкі» - гэта не толькі свята, але і важны сацыяльны праект. Ён садзейнічае павышэнню прэстыжу працы на зямлі, прыцягненню ўвагі моладзі да сельскагаспадарчых прафесій. Пераможцы гэтай уборачнай кампаніі - сапраўдныя героі нашага часу: паспяховых людзі, якія адбыліся, служаць прыкладам падрастаючаму пакаленню, лічыць Прэзідэнт.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што кожны год цэнтрам святкавання становіцца адзін з беларускіх гарадоў, якому ўся краіна дапамагае пераўтварыцца да ўрачыстасці і вырашыць многія жыццёва важныя пытанні.

Жлобін - сёлетняя сталіца «Дажынак» - за кароткі тэрмін набыў другую маладосць. У ім пабудавана і рэканструявана больш як трыста аб'ектаў, абноўлены дамы і вуліцы, электрыфікавана чыгунка, якая звязвае горад з Мінскам.

«Асаблівасць сённяшніх «Дажынак» у тым, што такога кароткага перыяду, за які мы павінны былі падрыхтаваць свята, краіна яшчэ не ведала, - падкрэсліў Прэзідэнт. - Многія прапаноўвалі правесці «Дажынкі», але не згадзіліся жлобінцы - чаму не ў іх. І мною было прынята рашэнне: калі губернатар не супраць, жлобінцы - за, калі ласка, але ў вас застаецца ўсяго 7-8 месяцаў. І ў гэтыя сціслыя тэрміны ўдалося ажыццявіць усё, што мы цяпер бачым у Жлобіне».

Аляксандр Лукашэнка пахваліў жлобінцаў за тое, што яны змаглі так хутка падрыхтавацца да рэспубліканскага свята. «У наш час гадзіна, тыдзень, месяц, не дай бог, год прамаруджвання - гэта двайная цана. Таму тое, што зрабілі тут будаўнікі, губернатар і кіраўніцтва раёна, горада, усе жыхары - усе заслугоўваюць павагі», - сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Кіраўнік дзяржавы таксама адзначыў, што ўсё зробленае застанецца жыхарам Жлобіна як падарунак гасцінным гаспадарам фестывалю. «Усё застанецца тут вам, вашым дзецям, моладзі, каб яны ганарыліся сваім цудоўным горадам», - сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Разам з тым Прэзідэнт сказаў, што ёсць скептыкі, якія звяртаюць увагу на недахопы, маўляў, не ўсё паспелі зрабіць. «Дык ёсць над чым працаваць. Бо мясцовыя кіраўнікі не ставілі за мэту пабудаваць новы горад. Мы хацелі прывесці ў парадак тое, што ёсць, і паказаць, як павінна быць. Таму ўсе павінны напружыцца і з дапамогай вобласці, рэспубліканскай улады пацiху дайсці да ўскраін і зрабіць горад самым квітнеючым. Такая мэта павінна быць у кожнага, хто пражывае на жлобінскай зямлі», - сказаў ён.

«Тое, што мы бачым сёння ў фестывальнай сталіцы, служыць пацвярджэннем бясспрэчнай ісціны, якая ляжыць у аснове нашай палітыкі: будзем лепш працаваць - будзем лепш жыць», - адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

Прэзідэнт таксама звярнуўся да гамяльчан: «Пастаянна, якая б ні была палітычная кампанія, якія б ні былі цяжкасці ў краіне, вы першыя падтрымлівалі мяне як Прэзідэнта. Хачу вам сказаць: нідзе вас не чакаюць - ні ў Еўропе, ні ў Кітаі, ні ў Расіі. Гэта ваша зямля, вы на ёй жывяце, і вашы дзеці і ўнукі павінны жыць на гэтай зямлі. І толькі працай мы можам пераўтварыць гэту зямлю».

*Кар. БЕЛТА*

